№ 7 [10] ЛІПЕНЬ 1948 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ВЕДАЙ, ВЕРАЙ, НАДЗЕЙ І ЛЮБОЎЮ ДА ЛЕПШАЕ БУДУЧЫНІ.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

| Цана нумару 30 фр. | Адрыс радакцыі: Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6). Chèque Postal : Paris c. 628744. | Падпісная цана на год 300 фр. |
|---|---|---|

## Развагі на часе

Ужо даўно сьцьверджана, што кніжкі й часапісы рэлігійнага зьместу маюць шмат менш чытачоў, як гэтага вымагае самая справа. Зразумела, што кожны цікавіцца найбольш тым, што яго найбольш даймае, а таму, што жывот кожнаму штодзенна найбольш голасна дыктуе свае патрэбы, дык здабыцьцё штодзеннага хлеба і да хлеба стаецца найбольш канкрэтным і займаючым пытаньнем. У бальшыні гэтае пытаньне стаіць на першым мейсцы; ня мала ёсьць такіх, якія ў гэтым бачаць адзіную мэту свайго жыцьця, адкідаючы ўсё, што ня мае дачыненьняў да жывата, або да капшука. Калі гэткія людзі й займаюцца іншымі справамі, дык толькі з гледзішча іх матэрыяльнае даходнасьці.

Бадай што найяскравейшы абраз такіх людзей паказаў Я. Купала ў сваім «Прароку». «Пасланец сьвятла» нясе загнанаму народу «вялікіх праўд сьвяты агонь» і кліча:

За мной, за мной, загнаны людзе!
Я добрай доляй послан к вам.
Я знаю, што было, што будзе;
І вас у крыўду не аддам.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А людзі, глянуўшы на сонца,
Адказ казалі грамадой:
«Пакольκі-ж нам дасі чырвонцаў,
калі мы пойдзем за табой?»

Сумам вее з гэтага паэтычнага абраза, а яшчэ сумней, што гэтае абвінавачаньне кідае паэт народу, які ў яго каменем ляжаў на сэрцы. Здаецца, што ня было-б лягчэй, калі-б гэты абраз прыраўняць да нашага эміграцыйнага жыцьця. Тут своеасаблівыя ўмовы, няўпэўненасьць заўтрашняга дня шмат каго зьбівае з панталыку і кідае, як зьбянтэжанага, ў розныя крайнасьці, а тым самым дзейнічае прыгнобліваюча на тых, якія яшчэ ня страцілі здаровага змыслу.

Тымчасам варта толькі хвіліну затрымацца ўважней над нашым жыцьцём, каб пабачыць, што яно мае шмат глыбейшы сэнс і вартасьць, як пагоня за «чырвонцамі» і здабываньнем «штодзеннага хлеба».

У радох эміграцыі ёсьць нямала такіх, якія мелі раней толькі гэтага «штодзеннага хлеба», што ім аж пераліваласся і здавалася, што да канца жыцьця будуць купацца ў дастатках, як сыр у масьле. Аж бач, сталася інакш!

З другога боку ўсе тыя, што пакінулі ўвесь свой дабытак і родны край, апынуліся на чужыне толькі з душою — ня ўміраюць тут з голаду.

Ці-ж ня відаць у гэтым, як споўніваюцца словы Хрыста: «Паглядзеце на птушак нябесных, што ня сеюць, ня жнуць і ня зьбіраюць у сьвірны, і Айцец ваш нябесны корміць іх; хіба-ж вы ня лепшыя за іх?» (Мат. 6, 26). Сёньня апынуўшыся на палажэньні пералётных птушак, можам бачыць і адчуваць на сабе, што «верны Бог» (І. Кар. 1, 9) датрымлівае свае словы. Але з гэтага выходзіць, што Ён датрымае й іншыя свае словы, якія маюць не ласкаючы, але пагражаючы зьмест.

Бяспрэчна, што кожны жывы мусіць мець кавалак «штодзеннага хлеба» для жыцьця. Сам-жа

Хрыстос вучыў маліцца і прасіць: «Ойча наш... хлеба нашага штодзеннага дай нам сёньня» (Мат. 6, 11), але адначасна Ён-жа казаў у адказ на спакусы: «Ня хлебам адным жыў будзе чалавек, але ўсякім словам, выходзячым з вуснаў Божых» (Мат. 4, 4).

Так адно, як і другое Бог пасылае кожнаму чалавеку адпаведна да патрэбаў, толькі на жаль вельмі часта іх не спасьцерагаюць і жывуць быццам зусім на сьвеце няма Бога і Яго апекі. Няма патрэбы пералічаць факты, ані расьпісвацца аб гэтым сумным зьявішчы, але хочацца зьвярнуць увагу на адваротнае: што гэтая апека ёсьць і, што яна да тае ступені адчувальная, што — нават бязбожнікі і камуністы часам адчуваюць Божую руку ў сьвеце такім чынам, што аж ня могуць устрымацца, каб не рабіць аб гэтым сэнсацыйныя прызнаньні. У кніжцы «Люди с чистой совестью» П. Вершигора, раздумваючы над ваеннымі падзеямі, піша: «...я стаў пераконвацца, што акрамя разьліку і простае, няўмольнае лёгікі вайны, ёсьць яшчэ незразумелыя для нашага розуму рэчы» (с. 16). Далей знайходзім яшчэ важнейшае прызнаньне ў гутарцы старэйшага камуніста да свайго малодшага тавaрыша: «Ты жаўнер — абаронца бацькаўшчыны, на цябе ўся краіна глядзіць... для цябе робяць патроны, для цябе працуюць вучоныя, за цябе моляцца бабулькі...

— Патрэбна мне іх малітва... (перабівае малодшы).

— Патрэбна, ці не, а гэта так... (с. 338).

І не канчае свае думкі камуніст, але і так цэнзура прапусьціла шмат, бо-ж ясна, што для перамогі, паводля гэтага сказу, патрэбна ня толькі праца вучоных і вытворчасьць аружных фабрыкаў, але й ціхая малітва да Бога. Значыць... не адным хлебам жыў будзе чалавек.

Калі мы захочам спытаць сябе, чым-жа жыве наша эміграцыя ў сучасны мамэнт? Дык адказ на гэтае пытаньне не пацешыць нас. Калі глянуць на часапісы, якіх сёньня нарахоўваецца роўна 20 у розных закутках нашае эміграцыі, дык у некаторых з іх знойдзем такі духовы хлеб, які мог быць сьпечаны хіба ў пякельнай печы (асабліва лістоўкі на такія выглядаюць) і гэта дзеецца тады, калі патрэбна найбольш жыватворчага слова, здаровае стравы і калі ўсе аднагодна прызнаюць патрэбу хрысьціянскага жыцьця і маралі. Дзякаваць Богу, што мала гэткіх ёсьць, але ўсё-ж сям-там адчуваецца іхняе заразнае дзеяньне, а гэта нам усім славы ня прыносіць.

Таму калі як калі, а ў сучасны мамэнт рэлігійны часапіс, ці кніжка, якія бяз лаянкі і ўзаемнага натраўліваньня нясуць змучанай душы здаровую духовую страву павінны знайсьці належнае зразуменьне і падтрыманьне.

Яны дадуць нагоду часьцей прыпомніць, што Бог верна выконвае свае словы ў адносінах да людзей і што нам — людзям, калі яшчэ ня страцілі зусім гонару й годнасьці чалавека, ня выпадае занядбаць нашых абавязкаў супроць Яго.

**а. Лазар.**

# Вакол загадкі

Між іншымі невыясьняльнымі для нас падзеямі, якія знайходзяцца на пачатку Бібліі ў кнізе «Быцьцё», бадай што з найбольшым недаверам прыймаецца некаторымі людзьмі апавяданьне аб упадку нашых прародзічаў Адама й Евы. Тым ня менш на гэтым апавяданьні асноўваецца хрысьціянская навука аб першародным граху.

Пэўна, калі падходзіць толькі з чыста разумовага гледзішча да біблійнага апавяданьня аб Адаме й Еве дык яно будзе выглядаць неверагодным, але калі з гэткага-ж г. зн. чыста разумовага гледзішча прыглянемся да сябе самых, да чалавека агулам і нават калі возьмем да помачы ўсю сучасную навуку, дык знойдзем такія супярэчнасьці ў сваёй натуры, такія загадкі, што іх без таго біблійнага апавяданьня ніяк і ніколі не разгадаем, бо як паясьніць:

чаму толькі людзі раджаюцца на сьвет з вялікімі болямі парадзіхі?

чаму толькі людзі маюць у сваёй натуры мешаніну із шляхотных імкненьняў і жаданьняў здавальняць свае самыя нізкія гоны; любоў цнотаў і патураньня злу? Ужо стары рымскі паэта Овідій дзівіўся з сябе самога: «Бачу лепшае і пахваляю, сьледую за горшым...»

чаму людзі мусяць так цяжка працаваць на свой штодзенны хлеб, калі бальшыня жывёлаў здабывае сабе пажыву шмат лягчэй?

чаму толькі людзі маюць пачуцьцё сарамязьлівасьці і карыстаюцца вопраткаю?

якім чынам ува ўсіх народаў існавалі яшчэ ў дахрысьціянскія часы пераказы аб даўнейшым шчасьлівым жыцьці і аб пазьнейшым упадку?

Грэкі й рымляне мелі прыгожую лягэнду аб першым «залатым веку»; пэрсы — лягэнду аб шчасьлівым валадарстве Джіма; індыйцы — аб гары Мэру з агародам для шчасьлівых; кітайцы — апавяданьне аб агародзе з жаралом несьмяротнасьці; славянскія народы маюць розныя старажытныя казкі аб даўнейшым шчасьлівым жыцьці. Ягіпцяне, гэрманцы, мэксыканцы маюць так-жа лягэнды аб шчасьлівым першым пэрыядзе.

Наступна, ёсьць так-жа лягэнда аб дрэве жыцьця й сьмерці і аб подступах пякельнага

зьмея. У розных народаў гэны зьмей мае розныя назовы. У пэрсаў ён Арыман, у егіпцян — Тыфон, у кітайцаў — Кыю, у скандынаўцаў — сын Лёка, у грэкаў — Пітон і т. д.

Ува ўсіх апавяданьнях знайходзім няпослух першага чалавека Божым загадам і ўсюды бачым жанчыну як пачынальніцу правіны.

У зьвязку з гэтым амаль ува ўсіх стараветных абрадах, якія суправаждалі нараджаньне дзіцяці, сьледныя элемэнты адпакутваньня ці то ў форме абмываньня вадою, ці пераносу праз вагонь, ці нешта падобнае.

Усё гэта нават даўнейшым паганскім пісьменьнікам і філязофам падшэптвала думку, што мы «нараджваемся ў стане цярпеньня, каб адпакутаваць нейкі вялікі злочын» (Цыцэрон). Для аграмаднае бальшыні гэтыя загадкавыя зьявы былі проста нявыясьняльнымі.

Адзіна толькі біблійнае апавяданьне аб упадку прародзічаў кідае сьвятло на вышэйпералічаныя пытаньні і асэнсоўлівае іх.

Дык ці варта мець засцярогу да Божых слоў, калі мы, разгарнуўшы кнігу Быцьця, у разьдзеле трэцім знойдзем тое мейсца, дзе Бог, зьвяртаючыся да зьмея, як увасабленьня зла, кажа:

«Палажу варажнечу між табою і жанчынаю, і насеньнем тваім і насеньнем яе...»

А да жанчыны: «Памножу цярпеньні твае, і будзеш заступаць і ў болях раджаць дзяцей тваіх...»

Да мужчыны казаў: «Праклята зямля ў працы тваёй, з яе будзеш здабываць пажыву, цяжка працуючы ўсе дні жыцьця твайго... У поце аблічча твайго зьясі хлеб твой аж пакуль ня вернешся ў зямлю, з якое ты ўзяты».

Пэўна-ж неадзін спытае: «Але як гэтыя словы могуць адносіцца да нас? Чым мы завінілі, каб насіць гэны праклён?

Але-ж з гэткаю самаю слушнасьцю можна пытацца: Чаму гаспадар, трацячы сваю маемасьць, або якісьці князь свой пасад, траціць усё ня толькі для сябе асабіста, але для ўсяго свайго нявіннага патомства? — Такое ўжо агульнае права, — ад заразных хваробаў дзеці часта больш пакутуюць чым бацькі, як пакутуе сучасны сьвет, супраціўляючыся прыняць шчыра адкупленьне прынесенае Ісусам Хрыстом.

Прыглядаючыся ўважней да свае натуры, мы знойдзем нямала загадак, для разьвязкі якіх першае слова ёсьць першародны грэх, а апошняе — адкупленьне Ісусам Хрыстом. **Е. К.**

# ДУША

### Надзвычайная сіла.

Каму даводзіцца аглядаць пажарышчы, або разбураныя паводкаю ці навальніцамі ваколіцы, заўсёды напрошваецца тады сказ: «Якія страшэнныя сілы, якія шалёныя стыхіі ёсьць у прыродзе!» Няма ніякае меры ні ліку, каб азначыць гэтыя сілы, каб іх ацаніць хоць прыблізна і ў параўнаньні да іх чалавек здаецца дробнаю бясьсільнаю істотаю. Аднак гэтая дробная істота — чалавек, стае да змаганьня з гэнымі сіламі і ў вялікай ступені іх перамагае; шчэ больш! іх падпарадкоўвае і выкарыстоўвае сабе на службу. — Бурныя рэчкі чалавек заставіў круціць млынавыя і фабрычныя турбіны; вецер з посьвістам і злосьцю круціць розныя ветракі, а агонь суправаджае амаль усё жыцьцё чалавека; ён і грэе, ён і гатуе, ён і дабывае нязьлічаную энэргію для фабрыкаў і заводаў.

Наймацнейшыя і найдзічэйшыя жывёлы чалавек так-жа змог упакарыць сабе, а колькі з іх сабе зусім асвоіў! — Як пакорна і рахмана лашчыцца перад чалавекам конь, карова, вярблюд і слон! —

Чым-жа чалавек змог гэта ўсё сабе падпарадкаваць? Чым змог адолець гэтыя сілы?

Не сваёю фізычнаю сілаю, бо яе ў чалавека параўнаўча замала, але сваім р о з у м а м!

Усе матэрыяльныя сілы маюць свае меры. Іх мераюць то на кіляграмамэтры, то на «конскія сілы». Кожная матэрыяльная рэч так-жа можа быць памерана і зважана ці на кіляграмы, ці на мэтры. Тымчасам на розум няма ніякае меркі ні вагі. Кажуць: больш разумны, менш разумны, вельмі разумны, але гэтае «вельмі», так сама як «больш» і «менш» нічым не азначаецца. Чаму так? Бо розум належыць да тых субстанцыяў, якія ня маюць нічога матэрыяльнага, ён зьяўляецца адною з духовых сілаў нашае душы. Дзякуючы прысутнасьці гэтае сілы чалавек ёсьць чалавекам ува ўсёй сваёй велічы, магутнасьці, і значэньні, не зважаючы на сваю фізычную маленькасьць, зьнікомасьць.

Пазнаць сваю душу, значыць пазнаць самога сябе, а як-жа жыць сябе ня ведаючы? Тымбольш гэта патрэбна, што ёсьць ня мала подшаптаў з розных бакоў, якія выкарыстоўваюць усе цяжкасьці для пазнаньня духовае душы, каб зьвесьці чалавека на памылковы шлях, таму ў гэтым кароценькім нарысе зьвернем асаблівую ўвагу на гэныя цяжкасьці.

## Нябачныя сілы.

Душа належыць да тых сілаў, якіх нельга бачыць, аднак у прыродзе ёсьць шмат, можа й вельмі шмат нават матэрыяльных сілаў, якіх нельга бачыць і беспасрэдна адчуваць іншымі нашымі змысламі, тымчасам яны існуюць, мы ў іх абяртаемся і нават не адчуваем, напр.: магнэтызм, гравітацыя, розныя патэнцыяльныя энэргіі, электрычнасьць і т. п. Вывучаюцца гэтыя сілы ў меру іх праяўленьня. Так-жа й душу хоць яе ня бачым вачыма, пазнаём розумам з яе дзейнасьці. Слаўны фізыялёг Фолькман Аль. казаў: «Мы ня можам бачыць і намацваць сілаў, якія дзейнічаюць паводля пляну, але мы можам рабіць высnaўкі аб іх існаваньні па выніках іх працы... Калі-б у пустыні, дзе паводля нашае думкі ня ступала людзкая нага, мы наткнуліся на будынак з чэсаных каменьняў і склееных вапнаю, дык нам стане зусім ясна, што яно рабілася з нейкаю мэтаю і паводля раней абдуманага пляну. Але арганічнае цела куды больш плянамернае чым такая будыніна. Галоўную прычыну кожнага арганічнага разьвою я бачу ў валоданьні аднае разумнае сілы, якая дзейнічае паводля азначанага пляну і каторая выбірае неабходныя для ўзьнікненьня ўмовы».

## Розныя ступені жыцьця.

Жывых істотаў на зямлі цэлыя мільёны, але душу маюць толькі людзі. Ня трэба быць вялікім дасьледнікам прыроды, каб пабачыць, што ёсьць розныя ступені жыцьця.

Найпрасьцейшым (вэгэтатыўным) жыцьцём жывуць расьліны; яны толькі маюць перамену матэрыі — аджыўляюцца, павялічваюцца ў абыйме — растуць і размнажаюцца.

Жывёлы маюць усе азнакі расьлінага-вэгэтатыўнага жыцьця, але да таго яны 'шчэ могуць рухацца, адчуваць ды рэагаваць на вонкавыя падражненьні.

Чалавек мае ўсе азнакі абедзьвех папярэдніх ступеняў жыцьця, але да таго яшчэ разумовае, духовае жыцьцё.

Калі для выясьненьня расьліннага (вэгэтатыўнага) і жывёльнага жыцьця здавальняюча прызнаць у іх просты, але нядуховы жыцьцёвы прынцып, дык для разумовага й духовага жыцьця неабходна нешта зусім адменнае ад матэрыі і шмат вышэйшае за яе — д у х о в у ю д у ш у.

Што-ж гэта такое **душа?**

Душою называем самы ўнутраны носьбіт жыцьця чалавека, апошні і найглыбейшы прынцып быцьця й дзейнасьці — сілу, на моцы якое чалавек расьце, аджыўляецца, адчувае, хоча, думае і распазнае.

Навонках праяўляецца душа праз дзеяньне сваіх сілаў: розуму і вольнае волі.

## Душа і цела.

У чалавеку душа і цела так цесна зьвязаны з сабою, што іх разьдзяліць можа толькі сьмерць. Ані сама душа, ані тымбольш самое цела, не становяць чалавека. Але былі раней і сёньня ёсьць ня мала людзей, якія ня прызнаюць душы зусім. Гэта будуць розныя матэрыялісты, якія агулам ня прызнаюць існаваньня духу ў прыродзе. Для іх чалавек — гэта жывёла, толькі што больш разьвітая. Самое слова «душа» яны штопраўда ўжываюць, але ў тым значэньні, што гэта ёсьць сукупнасьць дзеяньня нэрваў і мазгоў. Калі-ж мы спытаем матэрыялістаў: «Хто кіруе працаю нэрваў і мазгоў?» дык пачуем адказ: «Яны самі ёсьць кіраўнікамі». Выходзіць, што спраўны радыёапарат, які мае беззаганныя лямпы, цэлыя правады, спраўныя кандэнсатары, мэмбрану, антэну і ўсе іншыя неабходныя часткі будзе дзейнічаць сам і кіраваць сабою, калі-б нават ня дзейнічала ніводная надаўчая станцыя, калі-б ня было нідзе ніякага кіраўніка, што кіруе надаўчаю станцыяю.

У чалавеку такім нябачным кіраўніком разумовае дзейнасьці і мазгоў і нэрваў і ўсіх іншых органаў ёсьць душа.

## ДУША І МАЗГІ.

Але матэрыялісты рознымі спосабамі стараюцца даказаць, што душа гэта нічога іншага, як мазгі.

Разглянем галоўнейшыя з іх «доказаў»:

### «Без мазгоў няма думаньня».

Выхадным пунктам для матэрыялістаў ёсьць факт, што без мазгоў немагчымае думаньне адгэтуль робяць выснавак: «значыць мазгі прадукуюць думку». Некаторыя для большае яснасьці дадаюць: «Як печань вытварае жоўць, так мазгі вытвараюць думку».

Запраўды без мазгоў думаньне немагчымае, бо людзкая думка заўсёды патрабуе абразоў, абразы-ж вытварае фантазія, а фантазія цесна зьвязана з змысловым адчуваньнем і мазгамі. Але ці-ж можна з гэтага рабіць выснавак, што мазгі вытвараюць думку? Дык-жа ніводзін майстар на сьвеце ня робіць бяз прылады: «Бяз прылады й вераб'я не заб'еш», кажа беларуская прыказка. Ці бачыў хто калі такога музыканта, каб выканаў мэлёдыю бяз скрыпкі і смыка? Дык хто грае? ці сама скрыпка, ці музыкант? Так як скрыпка для музыкі, як прылада для майстра — патрэбны мазгі для душы.

Але гэта ня ўсё. Здавён-даўна заўважана, што тым органам, які найбольш розьніць чалавека ад жывёлаў, ёсьць мазгі, таму за ўсякую цану ста-

раліся ў мазгох знайсьці нейкі фактар, які-б вытвараў інтэлігэнцыю чалавека. Доўга ня думаючы, цьвердзілі, што інтэлігэнцыя залежыць ад велічыні, складкаў, формы і хэмічнага складу мазгоў. Так гаварылі раней, але факты паказалі іншае.

### Велічыня мазгоў.

Запраўды чалавек параўнаўча да іншых жывёлаў мае больш мазгоў. Мазгі найбольш разьвітых чалавекападобных малпаў не перавышаюць 600 гр., а мазгі найменш разьвітага чалавека маюць больш за 1.200 гр. Але з гэтага выходзіла б, што нават спаміж людзей, той, хто мае больш мазгоў мусіў-бы быць разумнейшы. У гэтым кірунку даўжэйшы час вяліся дакладныя досьледы, аднак вынік іх быў зусім непажадны для матэрыялістаў, бо выявілася, што шмат выдатных людзей навукі мела запраўды мазгоў больш, але ня мала было выдатных і вучоных людзей, якія мелі мазгоў менш чым сярэдні чалавек. Вось некалькі фактаў:

Тургенев рас. пісьменьнік — 2020 гр.
Кувье фр. прыродавед — 1830 гр.
Абэркромбі анг. мэдык — 1730 —
Такэрэй анг. пісьменьнік — 1660 —
Шпурцгайм ням. мэдык — 1560 —
Дірішле ням. матэматык — 1520 —
Вэбстэр амэр. філялёг — 1520 —
Гэльмгольц ням. філязоф — 1500 —
Гаус ням. матэматык — 1490 —
Брока фр. хірург — 1484 —
Дюпютрэн фр. хірург — 1440 —
Грот анг. гісторык — 1403
Сярэдні эўрапэец мужч. — **1372** гр. жанч. **1231.**
Гамбэта фр. палітык — 1315 —
Гэрман англ. філялёг — 1260 —
Ляйбніц ням. філязоф — 1257 —
Гаусман ням. хэмік — 1230 —
Дэлінгэр ням. багаслоў — 1207 —

Ведамы мэдык праф. Рудольф Вагнэр важыў аж 964 людзкія мазгі і канчаткова прыйшоў да высновы, што самая вага не зьяўляецца ніякім паказчыкам людзкое інтэлігэнцыі, а на дадатак выдатны нэўралёг, Лелю, на аснове свае доўгагадовае практыкі ў шпіталю для ўмыслова хворых мусіў сьцьвердзіць, што там больш палавіны хворых маюць абыймо чэрапа больш за сярэдняе.

Гэтак сама хутка адпала другая «азнака інтэлігэнцыі», якою, паводля матэрыялістаў, мелі быць прапарцыянальныя суадносіны між мазгом і целам. Запраўды ў чалавека гэтыя адносны ў сярэднім ёсьць 1/47, а ў вышэйшых чалавекападобных малпаў каля 1/100, а ў кіта 1/900. Але вось у Амэрыцы жыве невялічкая хвастатая малпа уістіті, у якое гэтыя адносіны большыя чым у чалавека, аднак яе ўсе ўважаюць найніжэйшаю з роду прыматаў. Таксама неадрэчы будзе заўважыць, што ў кажаноў гэтыя суадносіны большыя чым у сабакаў, а інтэлігэнцыя — наадварот.

### Хвалды мазгавое кары.

Заўважыўшы, што мазгавая кара нармальна разьвітага чалавека, мае густыя хвалды, а мазгі ідыётаў і крэтынаў азначаюцца малою колькасьцю гэтых, было пастаўлена цьверджаньне, што ў гусьціні мазговых хвалдаў ёсьць уся сутнасьць людзкое інтэлігэнцыі. Тымчасам глянуўшы на мазгі слана ці асла даводзіцца сьцьвердзіць, што ў іх ня менш хвалдаў на мазгох чымся ў чалавека. Не без значэньня ёсьць так-жа той факт, што мазгі сабакі й каня амаль зусім пазбаўлены хвалдаў хоць у ўмысловым разьвіцьці яны стаяць шмат вышэй за шматлікіх жывёлаў, у якіх мазгох гэткія хвалды ёсьць.

### Хэмічны склад мазгоў.

Сьледам за Бальзакам некаторыя фізыялёгі казалі: «Чалавек будзе ідыёт, калі яго мазгі ня маюць фосфару; вар'ятам — калі маюць фосфару зашмат; нармальным — калі маюць малавата; гэніем — калі мазгі насычаны фосфарам здавальняюча». З гэтага выходзіла-б, што фосфар ёсьць галоўным дзейнікам інтэлігэнцыі. Тымчасам пазьнейшыя досьледы выявілі, што мазгі рыбаў маюць фосфару даволі шмат, але розуму ня вельмі. Да таго досьледы мазгоў вар'ятаў выявілі, што ў іх толькі сама фосфару, колькі і ў нармальнага чалавека.

Бясспрэчна, што розныя хэмічныя складнікі могуць быць большымі, або меншымі штуршкамі да больш інтэнсыўнае ўмыслювае працы, але не яны ёю кіруюць. Як-бы сам хэмічны склад мозгу станавіў інтэлігэнцыю чалавека, тады лёгка было-б высьледзіць гэты склад і адпаведным харчаваньнем вытварыць давольную колькасьць разумных людзей; гэніяў. Але рэчаіснасьць сьведчыць аб чым іншым; што дурань і разумны кормяцца з аднаго стала і аднаго пауміска і гэта іх не зьмяняе.

Сьледам за др. Брока ад 1870 г. шматлікія лекары і фізыялёгі стараліся падзяліць увесь людзкі мозаг на розныя змыслова-пачуцьцёвыя і матарычныя (рухаючыя) цэнтры. У гэтым напрамку вяліся шматлікія досьледы. З году ў год расьлі дагадкі і схэмы падзелу, але адначасна расьлі й цяжкасьці. Запраўды ўдалося азначыць шмат матарычных цэнтраў, але дакладна іх разьмежаваць аніяк не ўдалося, але найболыш няпрыемна для матэрыялістаў, што ня знойдзена ў мазгох ніякага цэнтру і мейсца для памяці; і сёньня мазгавыя хірургі і псыхалёгі аднагодны ў тым, што памяці нельга злёкалізаваць у ніводнай частцы мазгоў. Гэтым самым нельга азначыць цэнтру думаньня й суджаньня, а гэта-ж найважнейшыя праявы разумовае дзейнасьці.

### Арганічныя пашкоджаньні мазгоў і псыхічныя закалоты.

Здаўна ведама, што арганічныя пашкоджаньні мазгоў выклікаюць большыя ці меншыя псыхічныя і разумовыя закалоты, дык матэрыялісты й робяць з гэтага выснавак: значыць мазгі й душа гэта тое самае.

Ці-ж ня праўды? Калі музыканту даць паламаную скрыпку і на ёй парваць струны, хай-жа на ёй тады зеграе! Але ці з гэтага нехта зробіць выснавак, што няма музыкі, значыць няма й музыканта?

Мала таго што гэткі выснавак страшэнна недарэчны. але нават сам факт не заўсёды і ня зусім праўдзівы, бо пашкоджаньне мазгоў выклікае ў некаторых выпадках забураньне толькі ў матарычных цэнтрах, не закранаючы самога думаньня. Часта здараюцца выпадкі, што арганічнае пашкоджаньне мазгоў выклікае ненармальнасьці ў гутарцы, пісаньні, руху некаторых органаў або і зусім унемагчымлівае іх, але зусім ня выклікае замяшаньня ў думаньні, як аб гэтым сьцьвердзіў др. П. Морі які даўжэйшы час займаўся гэткімі хворымі і вынікі свае працы апублікаваў друкам ў 1939 г.

А ўжо зусім кладзе на лапаткі ўсякія выкруты матэрыялістаў факт апублікаваны праф. І. Лермітам у 1937 г., з яго пркатыкі над чатырмя хворымі, якім было выразана па адной мазгавой паўкулі і пасьля гэтага хворыя ня выказвалі ніякіх псыхічных замяшаньняў. Наадварот, адзін з іх, які да апэрацыі быў страціў мову, з прычыны вераду на левай мазгавой паўкулі, пасьля апэрацыі пачаў нармальна гаварыць, другі так добра сябе пачуваў, што выказваў лекару прылюдную падзяку.

## СУАДНОСІНЫ МІЖ МАЗГАМІ І ДУШОЮ.

Вышэйпералічаныя факты здавальняюча ясна паказваюць, што нельга атоесамліваць душу з мазгом, як нельга атоесамліваць майстра з прыладаю, якою ён карыстаецца. Калі аднак для паясьненьня суадносін між душою і целам бяром гэты прыклад, дык адначасна трэба зрабіць засьцярогу, што між душою і мазгом, ці агулам целам ёсьць боль цесны зьвязок, чым між майстрам і прыладаю. Ані сама душа, ані самое цела не зьяўляюцца чалавекам, толькі іхняе спалучэньне творыць чалавека. Да выкананьня сваіх тувемных актаў душа ня толькі патрабуе цела, але яна ад яго залежная ў сваім дзеяньні. З гэтага зусім слушна вынікае, што чым дасканалейшым будзе цела, асабліва мазгі, тым лепш душа зможа выканаць сваю працу. Тут прыклад із скрыпачом і скрыпкаю добра гэта паказвае: Чым лепшай будзе скрыпка, тым лепш музыкант зможа выканаць нейкую мэлёдыю.

### Думаньне і перамена матэрыі

Падчас думаньня ў мазгу адбываецца больш інтэнсыўная, як звычайна, перамена матэрыі. З гэтага факту матэрыялісты так-жа стараліся зрабіць карысны для сябе выснавак, што думаньне ёсьць нейкім сваеасаблівым матэрыяльным актам. Аднак думка ня мае нічога матэрыяльнага, а што да перамены матэрыі падчас думаньня, дык і падчас перасыланьня дэпэшы праз электрычныя правады ў гэтых правадох адбываецца адпаведная перамена матэрыі — рух дрыбінаў у дроце па якім йдзе гэтая дэпэша, але самая дэпэша, яе зьмест, не зьяўляецца адзіным вынікам дзейнасьці дроту, а інтэлігэнтнае істоты-тэлеграфіста, які таксама неабходны для наданьня дэпэшы, як душа для думаньня.

Перамена матэрыі суправаджае кожную арганічную дзейнасьць у арганізьме, але з тою розьніцаю, што чыста арганічная ніжэйшая дзейнасьць адбываецца бяз удзелу нашае волі; мы яе нават ня бачым а часта і ня ведаем аб ёй. Прыкладна: ператварэньне пажывы ў страўных органах; якія там адбываюцца працэсы і рэакцыі, кудэю і як прайходзіць пажыва, пакуль стане складоваю часткаю арганізму, мала хто ведаю, а калі й ведае, дык ня вельмі над гэтым задумоўваецца. Думаньне наадварот адбываецца зусім сьведама — арганічнае перамены матэрыі, якая адбываецца падчас думаньня мы нясьведамы, але сам працэс думаньня і разважаньня для кожнага чалавека заўсёды сьведамы.

### Перавага душы над целам

Калі кажацца, што душа залежыць ад цела, дык гэтым зусім не гаворыцца, што душа падпарадкаваная целу. Праўда часта можна спаткаць людзей у якіх душа на толькі падпарадкаваная целу, што й сьлядоў яе цяжка заўважыць, але гэта дзеецца тады, калі чалавек сам дапусьціць да гэтага. Аднак з прыроды рэчы душа з кожнага гледзішча пераважае над целам. Як зьмест напісанага сказу перавышае пяро й чэрню, якія іх пісалі, так душа перавышае мазгі.

## ДУША ПАНУЕ НАД ЦЕЛАМ

Душа ня толькі перавышае, ня толькі можа панаваць над целам, але запраўды над ім пануе, валадарыць над ім. Аб гэтым кожны можна пераканацца на сабе і на іншых.

Аб чым сьведчаць дабравольныя галадоўкі вязьняў? аб чым сьведчыць пост аскетаў? Сьмяюцца часта з вялікіх вучоных, што яны вельмі забудзькаватыя, але аб чым гэта сьведчыць? Архімэд у абложаным горадзе так быў заняты канструкцыяю новае машыны, што ня чуў, калі

ворагі здабылі ґорад, ня чуў, як да яго падбег чужы жаўнер з паднятым мячом, толькі як той наступіў нагою на яго намаляваны на пяску плян, вучоны азваўся: «памалу, памалу, ня псуй мне пляну!»

Калі музык віртуоз захопіцца граньнем, дык хоць з гарматаў страляй каля яго, не пачуе. Падчас інтэнсыўнае ўмысловае працы, чалавек нават аб ежы забываецца. Што адбываецца тады ў арганізьме, чаму тады змыслы перастаюць дзейнічаць? Ці можа самае цела забывацца аб сваіх патрэбах, калі на дім не пануе нехта мацнейшы?

## ВОЛЬНАЯ ВОЛЯ

Але маем нязьлічаную колькасьць прыкладаў, калі людзі выразна супроцьставяцца жаданьням змыслаў. Ці-ж цела можа само сабе супярэчыць? Раненаму хочацца піць, а яму кажуць: «ні кроплі вады» і ён слухаецца. Ачуньваючы ад тыфу хоча есьці як воўк, а яму ледва на адзін зуб нешта дадуць перакусіць і ён слухаецца. Перамучаны жаўнер хоча спаць, а яму кажуць вартаваць і ён перамагае сон. Сьвятому Пракопу ўкладаюць у руку кадзіла, упіхаюць руку ў агонь перад аўтаром ідала і кажуць: «Толькі рашчамі руку і высып кадзіла перад бажком, і будзеш паганінам» гарыць жывое цела, шалёная боль праймае сьвятога, аблічча курчыцца ад спазмаў, але рука не рашчэмліваецца. Якая-ж гэта сіла валадарыць целам? Навт у тых выпадках калі чалавек робіць нешта з прымусу, заўседы ён мае сьведамасьць, што ён мае магчымасьць выбару рабіць інакш. Калі-ж з гэтае магчымасьці выбару часта не карыстае, дык гэта не азначае, што яе няма.

Матэрыялісты і ўсякае масьці бязбожнікі кажуць, што чалавек ува ўсіх сваіх учынках паводзіцца так, як ён узгадаваны і які на яго мае ўплыў асяродзьдзе. Але к чаму-ж тады ўзгадаваньне, як няма вольнае волі? Зьвяроў як ні муштруюць, яны ўсёроўна астаюцца зьвярамі. Пакуль на іх глядзіць даглядчык, дык выконваюць тое, што вывучыліся ў муштры, а па-за тым зноў кіруюцца толькі сваімі інстынктамі. Асяродзьдзе на іх так-жа ня мае ўплыву. Коні, каровы, сабакі, сьвіньні, каты ўжо цэлыя тысячагодзьдзі жывуць у асяродзьдзі чалавека але ніякага поступу ня выказваюць. Колькі гэта было крыку ў прэсе, калі малпа ў батанічным агародзе «дадумалася» падложанымі ёй каламі прыцягнуць да сябе бананы з кошыка. Але зачым-жа гэткую «мудрую» малпу ў клетку саджаць? навошта ёй бананы падрыхтоваць, дзеля чаго прыносіць і прыладжваць калы? хай бы яна сама гэта зрабіла і замест сябе ў клетку таго майстра пасадзіла, тады запраўды відаць было-б, што нечага навучылася.

Калі-б чалавек ня меў свабоднае й вольнае волі, дык як выясьніць паводзіны самых матэрыялістых, бо няма ніводнага з іх, які-б ня прызнаваў дрэнных учынкаў, злочынаў і не караў за гэткія ўчынкі.

Аджа калі ў чалавеку няма вольнае волі, дык ён ня можа выбіраць, дык зашто яго судзіць? Ці судзілі калі воўка за тое, што зьеў авечку? А нават і ў бязбожных дзяржавых ёсьць суд і пакараньне, ды яшчэ якое!

У таталітарных дзяржавах і газэты, і школа, і радыё, і ўрад, і ўсякае ўзгадаваўчае асяродзьдзе толькі аднаго напрамку — дык адкуль-жа зьяўляюцца там людзі, інакш думаючыя, калі няма вольнае волі?

Беспярэчна чалавек бальшыню сваіх штодзенных учынкаў робіць мэханічна, папрывычцы; аднак калі зьяўляецца патрэба, каб вольная воля сказала сваё «слова», тады яна выяўляецца.

Так сама ёсьць факт, што ня шмат ёсьць выпадкаў дзе вольная воля супраціўляецца целу, але ня трэба забывацца, што супраціў целу вольнае волі раўназначны ўнутранай вайне: як ў грамадзкім жыцьці супакойнае жыцьцё лічыцца на даўжэйшыя гады чым вайна, так і супраціў волі да вымогаў цела магчыма менш шматлікі. Але ён ёсьць і гэта самае важнае, бо ён зьяўляецца нязьбітым доказам, што ў чалавеку ёсьць нешта вышэйшае й магутнейшае за цела.

Выкананьне свайго абавязку і датрыманьне слова гонару нават паміж недаверкамі і нават коштам свайго жыцьця так-жа вымоўна выяўляе аб існаваньні ў іх нечага мацнейшага за цела.

## СУМЛЕНЬНЕ

Не ад аднаго супраціўніка душы можна часам пачуць: «Калі ў нас ёсьць нейкая розная ад цела душа, дык чаму яна хоць раз не акажацца?» З вышэй пералічаных фактаў ясна, што душа аказваецца ня раз, але нязьлічаную колькасьць разоў, толькі што яе «голасу» слухаць ня хочуць, а прыпісваюць то мазгом то нэрвам. Аднак здараюцца выпадкі, калі душа адзываецца ў асаблівы спосаб і яе голасу да ніякога органу ў целе чалавека прыпісаць ня могуць. Гэткім асаблівым голасам душы ёсьць сумленьне. Калі нехта меў няшчасьце зрабіць дрэнны ўчынак, дык напэўна адчуў «як кошкі скрэбаюць за сэрца». Нярaз яны аж за моцна скрабуць, але кіпцюроў іх знайсьці ў нашым целе нельга, бо яны нематэрыяльныя. Калі-ж добрае зрабіў — адчуваў вялікую радасьць.

**а. Л. Гарошка.**

# Ці усе могуць уступаць у сужэнства?

На гэтае пытаньне можна адразу і проста адказаць: Бязумоўна ня ўсе. Ёсьць асобы, між якімі дзяржаўным і царкоўным правам сужэнствы забаронены і ёсьць асобы, з якімі сужэнствы не пажаданыя.

Тыя выпадкі, калі сужэнствы забараняюцца,

выстарчыць толькі пералічыць для азнаёмленьня і для асьцярогі, бо й так, калі-б гэткія асобы захацелі жаніцца, ім ніхто ня дасьць шлюбу, а калі памылкова й дасьць дык шлюб будзе няважны.

Гэтыя выпадкі наступныя: Сужэнствы забаронены між:

непаўналетнімі,

немачнаплоцьнымі,

ужо жанатымі, пакуль жыве адно з сужонкаў,

хрышчонымі й нехрыстамі (у паасобных выпадках з важных прычынаў можна дастаць дазвол),

з каталіцкімі і праваслаўнымі сьвятарамі (гэтыя апошнія і ўсх.-кат. жэняцца звычайна перад прыняцьцем сьвятарства),

з манахамі й манашкамі,

прымушанымі да сужэнства сіламоц,

тымі, якія робяць крамольныя злочыны (забойствы), каб пазбыцца перашкод да сужэнства,

спародненымі да трэцяе ступені (другое стрэчы),

пасваячанымі ў найбліжэйшых ступенях,

у выпадках грамадзкае няпрыстойнасьці; калі прыкладна нехта сватаўся й заручыўся з жанчынай, а потым яе кінуўшы, сватаецца да яе дачкі, ці наадварот.

На чужыне для чужынцаў ёсьць яшчэ асобныя прыпісы, розныя ў кожнай дзяржаве. Прыпісы гэтыя зусім слушна ставяць перашкоды для нацыянальна мяшаных сужэнстваў, бо дзеці з гэткіх сужэнстваў мусяць ня раз перажываць не малыя трагэдыі.

Затое хацелася-б даўжэй спыніцца на тых выпадках, калі сужэнствы толькі непажаданыя. Тут варта прыпомніць, што беларускі селянін з даўных-давён заўважыў, што ў некаторых сем'ях ёсьць такія слабасьці й даляганьні, якія перадаюцца ў спадку з пакаленьня ў пакаленьне, таму стараўся з гэткімі сем'ямі не спародніваціца. Навуковыя досьледы гэтую спасьцярогу ўпоўні пацьвердзілі і нават дапоўнілі. Сёньня ведама, што ў спадку перадаюцца некаторыя добрыя азнакі, напрыклад: здольнасьць да музыкі, майстэрства. Але так-жа ведама, што перадаюцца такія дрэнныя схільнасьці, як цяга да п'янства, да зладзейства, лёгкае западаньне на псыхічнанэрвовыя хваробы. Не як схільнасьць, а як запраўдныя спадковыя няшчасьці перадаюцца: дурнаватасьць, слабазорасьць, лёгкая заразьлівасьць на сухоты, гэмафілія, вэнэрычныя хваробы (асабліва пранцы).

На п'янства, сухоты й вэнэрычныя хваробы варта зьвярнуць асабліва бачную ўвагу, бо гэта найстрашнейшыя грамадзкія хваробы, якія страшэнна мучаць ня толькі самых нядужых, але вельмі абцяжваюць ўсё асяродзьдзе, дзе закараняюцца. Калі адна з мэтаў нашае эміграцыі ёсьць пазьбіраць усё тое добрае й карыснае, што маюць іншыя народы, каб потым скарыстаць з яго на бацькаўшчыне, дык у поўнай супярэчнасьці да гэтае мэты было-б абцяжваць беларускую грамадзкасьць гэтымі грамадзкімі бічамі, якія ўносяць з сабою толькі ўпадак і расклад.

Напэўна ні адзін думаючы аб сужэстве, не жадае мець замест цёплага, прыветнага хатняга вогнішча і жыцьцярадасных дзяцей, у сваёй сям'і логава цярпеньня і жалюгодных родных калекаў, якімі ёсьць найчасьцей дзеці з сужэнстваў з п'яніцамі, сухоцнікамі й вэнэрыкамі. Вялікі процант дзяцей з гэтых сужэнстваў уміpае адразу, а тыя, якія выжываюць пераважна пакутуюць усё жыцьцё, як бязвольныя злачынцы, ці нявінныя мучанікі-калекі.

На п'янства ў нас часта зусім замала зьвяртаюць увагі. Ня раз можна пачуць і такую думку, што «п'яны прасьпіцца, а дурань ніколі». Аднак тыя, якія маюць магчымасьць уважней прыглядацца да п'яніцаў бачаць, што п'яніца праспаўшыся зноў ідзе піць, і так бесканца. Таму «шынкар кожнага п'яніцу любіць, але за ніводнага дачкі замуж аддаць ня хоча». Бо хто, як хто, а шынкар добра бачыць, што «Чарка гарэлкі — мора сьлёз». Ды яшчэ якіх сьлёз: 80% дзяцей п'яніцаў, якія выжываюць ёсьць хваравекімі. Сумна глядзець на калекаў: крывых, сьляпых, гарбатых, нямых, дурнаватых, тупалобых, крэтынаў, эпілэптыкаў (з падачкаю) — але спытаць толькі: хто іх бацькі? 80% гэта п'яніцы. «Бацькі корсткае пілі, а на дзяцей аскоміна». Асабліва жалюгодныя дзеці пап'янаму роджаныя. А да гэтага няшчасьця шмат ня трэба. Хапае, калі бацька ці маці ў часе зачацьця былі толькі чуць падхмеленыя. Гэты хмель можа помставаць аж да чацьвертага пакаленьня. Можна параіць паважанаму чытачу пры нагодзе самому пацікавіцца бацькамі калекаў, каб пераканацца ў страшэнным дзеяньні п'янства.

Нават тыя 20% дзяцей п'яніцаў, якія шчасьліва выжываюць без цялеснага і духовага ды разумовага калецтва ня шмат маюць радасьці ў жыцьці. Яны становяць найбольшае жарало злачынцаў і ўмыслова хворых. У Францыі ў 1947 г. 65% крыміналістаў станавілі алькаголікі. На агульны лік вар'ятаў у дамох для ўмыслова хворых 33% станавалі алькаголікі. У Аўстрыі ў 1925 г. 35% вар'ятаў станавілі алькаголікі, а ў Швайцарыі нават 42%. У паасобных галох, залежна ад умоваў гэтыя лікі зьмяняюцца, але самая вымова гэтых лікаў вельмі ясная. Нічога дзіўнага, што беларускі народ п'янства назваў «хваробаю над хваробамі».

Пагубнае дзеяньне алькаголю выясьняецца тым, што малады арганізм вельмі чулы на яго, таму ,калі ўжо ў лоне мацеры распачынаецца дзеяньне алькаголю на арганізм дзіцяці, дык яно даводзіць да паважных арганічных пашкоджаньняў

найбольш далікатных частак людзкога цела, які-мі ёсьць мазгі і разродчая плязма.

Вэнэрычныя хваробы, гэта найбольш гадкія хваробы, да якіх сам нядужы стыдаецца прызнацца, таму тымбольш да іх трэба быць уважным. Мала таго, што яны гадкія, але ў бальшыні спадковыя, або абязьдзетніваючыя і нявылячальныя. Абмяжоўваюцца толькі тым, што іх залечваюць. Калі ёсьць хоць найменшая няпэўнасьць у гэтай справе, неабходна перад сужэнствам для супольнага дабра, перш параіцца з лекарам.

Калі абедзьве папярэднія хваробы злучаны з нейкаю асабістаю правіннасьцю, дык сухоты нічога гэткага ня маюць. Наадварот, вельмі часта найбольш шляхотныя і адданыя для грамадзкага дабра людзі, скошваюцца сухотамі.

Характэрныя сухоты тым, што чалавек раз на іх захварэўшы, хоць і вылечыцца, на заўсёды будзе мець схільнасьць лёгка імі зноў заразіцца. Гэтая падатлівасьць да заразы перадаецца ў спадку дзецям сухотнікаў. Дзеці з гэткага сужэнства родзяцца здаровымі, але вельмі лёгка й хутка заражаюцца ці малаком мацеры-сухотніцы, ці ад кашлю бацькі. Таму, што малых дзяцей лячыць ад гэтае хваробы вельмі цяжка, дык яны ў вялікай колькасьці паміраюць.

Што да менш значных даляганьняў, дык агулам трэба памятаць, што яны нават і мала прыметныя, калі прыпадкам будуць у абодвых сужонкаў дык у дзяцей праявяцца ў значна большай ступені. Дзеля гэтага й забараняецца сужэнства між блізкімі роднымі. Ужо здаўна заўважана, што там, дзе жэняцца блізкія, ці ня вельмі аддаленыя родныя, адбываецца выміраньне. Сёньня гэткім парадкам выміраюць нешматлікія самаране ў Палестыне і некаторыя старыя арыстакратычныя роды. З Божае волі прырода сама бароніцца ад гэткіх сужэнстваў дзякуючы так званаму страху крыві, які ахараняе ад інтымных зносінаў між братамі і бліжэйшымі роднымі.

Каб унікнуць няшчаснага сужэнства і не абяздольваць сябе на ўсё жыцьцё, неабходна перш пазнаць добра свайго сябру, ці сяброўку будучага жыцьця, выкрыць схаваныя недамаганьні. Калі на бацькаўшчыне ў больш сталым жыцьці гэта не станавіла вялікае цяжкасьці, дык на эміграцыі, дзе спатыкаюцца з сабою прыпадкова зусім незнаёмыя раней людзі, ўзаемнае пазнаньне становіцца нялёгкаю справаю. Да таго з прыроды кожны чалавек стараецца хаваць свае слабасьці, недамаганьні і хваробы. Таму найлепшаю радаю для маладых заручаных на эміграцыі будзе: устрымлівайцеся ад сужэнства з малаведамымі асобамі да часу пакуль іх не пазнаеце здавальняюча. Асабліва дзяўчаты павінны зразумець небясьпеку неразважнага выхаду замуж і не паўтараць сабе: «Хоць-бы за вала, абы дома ня была», бо гэта няпраўда. Нязьлічаныя сумныя песьні маладзіцаў вымоўна сьведчаць аб чым іншым.

Лепш напярод падумаць і разглянуцца пакуль яшчэ ёсьць час, каб пачасе ня пець і не галасіць:

Ой, што-ж ты, мая мілая думала,
Як на гэту гібку кладку ступала?
Я думала, мой міленькі, утануць,
Каб з табою, мой міленькі, мне ня жыць.

Бо не дзеля таго ўстаноўлена сужэнства, каб у ім чалавек пабольшваў і так вялікае сваё цярпеньне. Наадварот — у сужэнстве злучаюцца два сэрцы, каб падзяліць з сабою чар узаемнае любові, каб мець палёгку ў жыцьці, каб заснаваць цёплае сямейнае вогнішча, у якім маглі-б агрэцца ад марозячае абыякавасьці вонкавага, чужога сьвету.

Калі палкае сэрца часам не дае магчымасьці цьвяроза глянуць праўдзе ў вочы, трэба паслухаць асьцерагаючага голасу сьв. Царквы, якая мае на ўвеце выключна дабро чалавека й яго спасеньне.

**а. Леў.**

# На беразе бушуючага мора

Калі з Палесься закінула мяне доля на далёкі поўдзень аж у італійскі бот, дык самым першым маім жаданьнем было глянуць на мора. Сваімі вачыма паглядзець на запраўднае мора.

Нагода хутка трапілася. Іду.

Моцны вецер у вочы дадаваў больш ахвоты, хутчэй ступіць на бераг. Дзень выдарыўся невясёлы; хмары непраглядна закрывалі прыгожа-галубое італійскае неба,на беразе ні знаку таго звычайнага ажыўленага руху. Салёна-вогкае паветра і моцны вецер пранікаў праз вопратку і даймаюча праймаў ня толькі шкуру, але здавалася й косьці. Але ахвота горш няволі. Ды ўсе-ж надвор'е было цёплае і навокал усё зеляніласяя.

У вінаградніках пуста. Пясчаная дарожка між вінаградніками так замецена ветрам, што ня відно ніводнага сьледу жывое істоты. Яна цяпер падобна больш да нейкага пясчанага раўчука, якога паверхню неспадзевана сьцяў дробны вакар і так застыў.

За вінаграднікамі яшчэ цягнецца пасма ніцых кустоў, але ўжо за імі праглядае цёмна-сіняе аблічча мора. Глухі гул, маўляў ад тысячнага збунтаванага натоўпу даносіцца адтуль.

Нарэшце я на ўскраю кустоў. — Шырокае мора раскрылася ўва ўсёй сваёй велічы й магутнасьці перад вачыма і так прыкоўвае зор, што на нейкі час нельга скрануцца з мейсца.

Усьпененыя хвалі адна за другою бягуць да берагу; адна другую падганяюць і злосна шумяць на тых, якія ім замінаюць свабодна разагнацца. Белыя грывы быццам бічы пагрозьліва ўздыймаюцца высока над паверхняю і пырскаюць пенаю ад злосьці. Уся гэтая агромністая разбушаваная маса імкліва напірае на ціхі, адлогі, пясчаны бераг.

Вайна стыхіяў — інакш хіба нельга назваць гэтага вобразу. — Магутны вецер зьверху, бязьмежнае ўсьпененае мора збоку — і спакойны пясчаны бераг. Хто пераможа?

Выглядае, быццам мора заелася за ўсякую цану заліць гэты бераг, затапіць усё, што яго абмяжоўвае ў сваіх цёмных глыбінях і ўсю сваю сілу накіравала ў гэты бок.

Усьпененыя хвалі, як разагітаваны натаўп, рынуліся ў бой.

— Заліць, захапіць!!!

А бераг маўчыць.

Бушуе мора.

Во, грозная хваля, большая за папярэднюю імкнецца з самапэўнасьцю ўпярод і далёка заганяецца на бераг, але раптам зачынае чэзнуць меншаць, прылягаць да пяску і... вось яна ўпакораная, прыцішаная, быццам засаромленая, хутка ўцякае назад. Толькі невялікі краб, выкінены з свайго сховішча, стараецца хутчэй захавацца ў пясок. І вольны, абмыты бераг спакойна зноў уздыймаецца над морам. Гэта яшчэ горш злуе мора, бо вось яшчэ большая хваля з яшчэ большым гукам і пенаю на грыве набягае на бераг, але і яна за хвіліну ўцякае назад. Ня здолела яна дабегчы мэты, як за ёю набягае грозна ўзьняты вал з грозным шумам і кідаецца на непадатны бераг. За хвіліну й ён скочваецца назад і толькі працяжнае: ша-а-х-х гіне ў наступаючай чарговай хвалі. Аж захліставецца, аж нема раве ўзбураная стыхія. Наступы бязупынна чаргуюцца адзін за другім усё з новаю сілаю, абкідаючы бераг усякім гнільлём і ламаччам, якога ня мала хавае мора ў сваіх нетрах. А пясчаны бераг быццам цэмэнтуецца ў хвалях, спакойна й непахісна астаецца на сваім мейсцы.

Успамінаюцца, сам ня ведаю дзе і калі, чутыя словы:

«Прадзел палажыў есі, яго-жэ ня прэйдуць, ніжэ абрацяцца пакрыці землю».

Запраўды, быццам нечая магутная ўтрымліваючая рука адчуваецца ў гэтых разбушаваных хвалях, яна нейкім чынам зазаначае мяжу для ўсьпенага мора. Ні на корх яно не пасоваецца далей тае мяжы, а так-бы, відаць, яму хацелася ўсё затапіць. Так яно імкнецца з тае бязодні, з таго бяскраю, што губляецца недзе за небасхілам.

Толькі некалькі крокаў дзяляць мяне ад разьюшанага валадарства стыхіі, але нават на пясчаным беразе, спакойна ад яго і бясьпечна. Воддаль відаць некалькі скалаў. Там яшчэ спакайней, яшчэ вялічавей. А мора бушуе далей. Каб ня гэтыя берагі, што-б яно рабіла? **Т. Малько.**

# НА КЛІЧ ЗВАНОЎ

— Куды-ж ты зьбіраешся? — пыталася гаспадыня свайго Нупрэя, скідаючы з апаньві аладку і, заўважыўшы, што той маніцца некуды выходзіць.

— Трэба пайсьці поле агледзець сьвятою нядзелькаю.

— Дык ты сьвятою нядзелькаю пайдзі разам з людзьмі ў царкву Богу памаліся, каб Ён ніву радзіў, а аглядаць і папалудні час будзе.

— Ты вельмі шмат ведаеш, калі будзе час, а калі не, маючы поўную рашку перад сабою і апалонік у руках.

Бом, бом, бом — азваўся звон у недалёкай вясковай царкве.

— Во, чуеш? клічуць куды йсьці.

— Што гэта! Напаселася як аса...

Нупрэй бразнуў дзьвярыма і выйшаў, а звон паўтараў сваё бом, бом...

— Цюлік! на цю, на! — заклікаў Нупрэй. З будкі кулём выскачыў сабака і, убачыўшы гаспадара ,з візгам абабег навокал яго ды лізнуў некалькі раз руку.

— На поле пойдзем, — гаварыў Нупрэй да Цюліка і паказаў на весьнікі. Сабака кінуўся ў паказаным кірунку, пералез цераз весьнікі і глядзеў, куды заверне гаспадар.

Нупрэй, недахадзя да гумна, пабачыў у гародчыку курэй.

— Акыш, падлы! — закрычэў голасна і куры палетам кінуліся наўцёкі.

Толькі Нупрэй зьбіраўся зачыніць весьнікі, каб выйсьці на загуменьне, як пачуў за сабою голас:

— Тата, не зачыняй! — Гэта яго малодшы сын вёў каровы з ранкаў.

Адна падласая, другая чорная — абедзьве вялікія прыгожыя каровы з тонкімі паводчыкамі на рагох, а між імі невялікі хлапчына, трымаючы адною рукою паводчыкі, а другою невялікую лазіну.

Падласая, згледзеўшы куст сочнае дзяцеліны пры дарозе, захацела ім паласавацца.

— Ну! Ну-у-ж! — крычаў малы і сьцебануў лазінаю па баку Падласай.

— Набралася, як бочка й яшчэ ёй мала, — прыгаворваў пастух.

Каровы слухняна пайшлі далей за малышом. Нупрэй з любасьцю паглядзеў на кароў, як тыя спакойна праходзілі ля яго, потым моўчкам зачыніў весьнікі і накіраваўся ў поле.

Не прайшоў ён і пару крокаў, як з суседняга двара на вялікай каштанцы выехаў равесьнік яго малодшага сына.

Куды ты зьдзябурыўся? — ня вытрымаў Нупрэй, каб не азвацца да малога. — Гэта-ж ты як зваліўся, дык як гляк разаб'ешся!

— Ого, я звалюся. Ну! — закамандаваў малы, каб паказаць, як ён умее езьдзіць.

Каштанка паслушна пайшла трушком, а малы тузаў павадцамі, каб пагнаць яе яшчэ хутчэй.

— Жменя таго чалавека, а гэткая тамоліна яго слухае. Вось Боская моц, — думаў Нупрэй, гледзячы на малога.

А звон паволі ўсё паўтараў сваё бом, бом, бом...

Якраз Нупрэй мінаў гумно свайго швагра, як яму перабег дарогу ягоны нябож, а за ім з бізуном у руках выскачыў сам швагір, гукаючы:

— Вярніся, кажу табе, бо як трапіш у мае рукі, дык цэлага мейсца на шкуры не пакіну!.. — але пабачыўшу швагра замоўк.

— За што-ж ты яго гэтак?

— Гэта-ж так ататурыўся, дубіна гэты, што хоць ты яму кол на галаве чашы, дык не паслухае, калі ўпрэцца. Ці ты да яго гавары, ці ў сьцену. Маці прасіла, каб памог Росьціку кароў прывесьці, дык дзе там. Сабраў нейкую кумпанію на рэчку йсьці, і ні гавары ты яму.

— Шкура бізуна просіць, — дадаў Нупрэй.

У гутарку ўмяшаліся адразу ўсе званы. Іхны гучны кліч бім, бам, бом, бім, бам, бом... залунаў над вёскай і шырокім водгульлем рассыпаўся над нівамі...

Размаўляючых мінула цётка Хрысьціна аддаўшы Дабрыдзень. Яе сьвяточны ўбор казаў сам за сябе, куды яна йшла.

— Кліч — недаклічашся, прасі — недапросішся, гукай — недагукаешся, як і не яму... — гаварыў швагір.

А званы паўтаралі сваё бім, бам, бом, бім, бам, бом. Швагры здавалася ня чулі гэтага клічу, неразумелі рэтае просьбы, не да іх адносілася гуканьне. Адзін бізуном пагражаў свайму непаслушнаму сыну, паўтараючы:

— Я-ж табе пакажу! думаеш, што я за табою буду ганяцца, сам прыдзеш, ад маіх рук не ўцячэш! — і пайшоў на двор, а другі моўчкам завярнуўся ў поле.

Званы апошні раз паўтарылі сваё бім, бам, бом і тры кароткіх, заціхаючых бам, бам, бам — пралуналі над нівамі.

— Я-ж табе дам! — паўтарыў сам сабе Нупрэй пад гоман званавога рэха, і яму здалося, што гэта ён чуе нейчы іншы голас. Мімаволі агледнуўся на аддаленую званіцу, але там нікога ня мог згледзець. Глянуўшы наперад, Нупрэй пабачыў з-за горкі таго падшыванца, што ўцякаў ад бацькі, а цяпер цікаваў, ці за ім гоняцца далей.

— Дык і я да яго ў кумпанію? Вось гэта дык якраз...

Ад гэткае думкі Нупрэй раптам спыніўся.

— Мяне, гаспадара, уся мая хатняя жывёла слухае. Цюліку толькі сьвісьні, дык ён і тут; лейцамі пацягну і конь заверне, куды захачу; карову на тоненькім шнурочку завяду, куды хачу... сваім хатнім што скажу — выканаюць, хоць часам і паагрызаюцца, толькі дзікі зьвер мяне ня слухае, — а я сам не хачу вось паслухаць найбольшага Гаспадара ўсяго сьвету і вырываюся ў поле як дзікі зьвер, як той падшыванец, ці-ж гэта ёсьць лад? Званы з Ягонага дому клічуць, а я глухі на іх покліч. Не-е! гэтак ня будзе!!! Ён рыўком завярнуўся назад.

— Цюлік, пайшоў дахаты! — азваўся раптам Нупрэй.

Цюлік падбег да гаспадара і, не разумеючы што сталася, пільна ўзіраўся на Нупрэя, скруціўшы хвост непарушным абаранкам, толькі з разяўленага рота высалапіўся язык і рухаўся ў такт дыханьня.

— Што глядзіш, — паўтарыў Нупрэй, — чуеш, дахаты!

Цюлік апусьціў хвост, адбегся некалькі крокаў і зноў спыніўся, аглядаючыся.

— Пайшоў, пайшоў! — прыгразіў Нупрэй і нагнуўся па купіну.

Некалькі хвілін пасьля, цяжкія крокі разьляглігліся на прыступках царквы... Нупрэй з абліччам вінаватага ўвайшоў у Божы дом і пакорна сагнуў свае калені ў гутарцы з сваім Найвышэйшым Гаспадаром-Богам.

**Анатоль Жменя.**

# ЕРУЗАЛІМ

(Прадаўжэньне).

Ад часу егіпецкага султана Салядына, які ў 1187 г. быў заваяваў Ерузалім, ключы ад сьвятыні знайходзяцца ў руках магамэтан, таму ўвайшоўшы ў Базыліку, на левым баку бачым мейсца магамэтанскіх старажоў.

Паступіўшы крыху, перад намі зараз будзе

КАМЕНЬ НАМАШЧЭНЬНЯ

пакрыты мармуроваю плытаю. Тут вучні Ісуса,



Сучасны від аднае з дарожкаў на Аліўнай Гары. Відаць пападпіраныя аліўкавыя дрэвы, якія паходзяць з часоў Хрыста.

зьняўшы з Крыжа Ягонае цела намашчвалі алейкамі перад тым, як палажыць Яго ў гроб. Тут пілігрымы звычайна ўкленчыўшы цалуюць мармуровую плыту, прыкрываючую гэтае сьвятое мейсца.

Налева бачым невялікае круглае агараджэньне; гэта мейсца, дзе стаяла Божая Маці разам з іншымі пабожнымі жанчынамі падчас намашчваньня цела Ісуса Хрыста, а направа будзе

## КАЛЬВАРЫЯ.

Ідзецца на Кальварыю стромымі каменнымі сходамі, каторыя тут знайходзяцца абапал.

Кальварыя гэта тое мейсца, дзе Хрыстос быў укрыжаваны. У капліцы Кальварыі даволі цёмна; асьвятляецца тут пераважна толькі падчас багаслужэньня, але толькі сьвечкамі і лямпкамі. У гэтай капліцы знайходзіцца аўтар Укрыжаваньня Ісуса Хрыста і аўтар Маці Божай Цярпячай, якія належаць каталікам, а побач іх знайходзіцца аўтар Сьмерці Ісуса Хрыста на Крыжы, які належыць праваслаўным грэкам. Самая капліца таксама падзелена: паўночная яе частака лічыцца праваслаўнаю, а паўдзённая — каталіцкаю.

У каталіцкай часьці капліцы пры закратаваным акне Франкаў адмаўляецца **Дзесятая** стацыя — Абнажэньня Ісуса Хрыста на ўспамін таго мамэнту, калі перад укрыжаваньнем зьдзерлі з нашага Збаўцы прыкарэлую да ранаў вопратку.

**Адзінаццатая** стацыя — Укрыжаваньня адмаўляецца пры аўтары Укрыжаваньня.

**Дванаццатая** стацыя — Сьмерць Ісуса Хрыста на Крыжы адмаўляецца пры аўтары Сьмерці. Пад гэтым аўтаром ёсьць круглая адтуліна, абложаная сярэбранаю пазалочанаю бляхаю; гэта тое мейсца

## ДЗЕ СТАЯЎ КРЫЖ ІСУСА ХРЫСТА.

Гэтае мейсца ёсьць у вялікай пашане ў пілігрымаў-хрысьціян усіх часоў, усіх народаў і абрадаў; тут стараюцца памаліцца і хоць дотыкам пальцаў прылажыцца да таго сьвятога мейсца ў скале, на якое сплывала Найсьвяцейшая Кроў Богачалавека.

**Трынаццатая** стацыя — Зьняцьце з Крыжа Ісуса Хрыста адмаўляецца пры аўтары Маці Божай Цярпячай. На гэтым мейсцы Ёй падалі Цела Ісуса, зьняўшы Яго з Крыжа.

Аўтар гэты невялікі, але ён асабліва прыцягвае ўсіх наведвальнікаў, нават некаталікоў, а нават і зусім нехрысьціян. Усе тыя хто церпяць нядолю, хто перажывае мукі, чые вочы часта зрошваюцца сьлязамі — прыходзяць да Маці Божай, каб падзяліцца з ёю сваім цярпеньнем і знайсьці спагаду ў Яе цудоўных вачох, якія быццам жывыя і поўныя сьлёз.

Тут між аўтаром Маці Божай Цярпячай і аўтаром Сьмерці Ісуса Хрыста знайходзіцца адна з тых шчылінаў, якія ўтварыліся ў вакольных скалах падчас трасеньня зямлі па сьмерці Ісуса. Для бясьпекі гэтая шчыліна прыкрытая.

З Кальварыі, ідучы сходамі ўніз, зыходзіцца да

## ГРОБУ НАШАГА ЗБАЎЦЫ.

Месьціцца Ён у круглай высокай сьвятыні сярод якое стаіць асобная капліца ў каторай знайходзіцца Гроб. Тут перад капліцаю Гробу адмаўляецца апошняя **Чатырнаццатая** стацыя — Злажэньне ў Гроб цела Ісуса Хрыста. Каб увайсьці ў Гроб, трэба прайсьці праз капліцу Ангела ў якой пабожныя жанчыны сустрэлі першага нябеснага вястуна з радаснаю весткаю аб уваскрасеньні Хрыста. У капліцы Ангела, якраз пасярэдзіне знайходзіцца ў мармуровой аправе кавалак таго каменя, каторым быў зачынены ўвайход да гробу.

У Гроб вядуць нізкія дзьверы. З правага боку



Скала на якой маліўся Хрыстос у Гэтсэмані перад сваімі мукамі. За скалою відаць вялікі Аўтар Базылікі Кананьня.

ў Гробе знайходзіцца невялікі ўздым ,быццам аўтар — гэта тое мейсца дзе было зложана Цела Ісуса Хрыста, і дзе Яно спачывала ад пятніцы аж да нядзелі рана.

Да Гробу ўвайходзіцца найбольш па чатыры чалавекі чаргою.

Пры гробе адпраўляюць набажэнствы каталікі, праваслаўныя й армяне. Кожнае з гэтых веравызнаваньняў мае тут свае абразы, ліхтары і лямпкі і азначаныя гадзіны для адправы набажэнстваў.

Копты маюць асобную каплічку дабудаваную да Гробу.

На гроб мы прывыклі глядзець як на сымбаль сьмерці, але Гроб Хрыста з якога Ён уваскрос зьяўляецца сьвядоцтвам загробнага жыцьця і помнікам несьмяротнасьці. Таму пры Гробе Ісуса заўсёды адпраўляецца Служба Божая аб Уваскрасеньні Ісуса Хрыста.

Той страх сьмерці, які мае кожны чалавек, пры Гробе Хрыста, пры мейсцы Яго ўваскрасеньня траціць сваю прыгнобліваючую сілу. Тут у Гробе Хрыста чалавек пачынае глядзець на сьмерць, як на той сон, да якога кожны чалавек кладзецца штодня, каб назаўтрае ад яго прачнуцца.

Насупраць Сьвятога Гробу знаходзіцца катэдра грэкаў.

Праходзячы каля капліцы Гробу Хрыста на супроцьлеглы бок праз пралёты між філярамі, бо ў круглай сьвятыні замест сьценаў навокал такія філяры, — увайходзім да навы, дзе цяпер з правага боку знайходзіцца каталіцкі аўтар сьв. Марыі Магдалены, збудаваны на тую памятку, як уваскросшы Хрыстос, паказаўся гэтай сьвятой жанчыне.

Ідучы даелй — зараз направа будзе закрыстыя айцоў Францішканаў, а проста крыху ўгару па круглаватых сходах увайходзіцца да

## ФРАНЦІШКАНСКАЕ КАПЛІЦЫ.

Гэтая капліца збудавана на памятку таго здарэньня, як уваскросшы Хрыстос паказаўся сваёй Маці.

Увайшоўшы да гэтае капліцы зараз над бочным аўтаром можна пабачыць праз малое круглае ваконца кавалак каменнага слупа, пры каторым на пляцы Пілата бічавалі Хрыста. Гэта ёсьць

## КАЛЮМНА БІЧАВАНЬНЯ.

У Вялікую Пятніцу, а часам і ў іншыя дні яна выстаўляецца для агульнае адарацыі, а звычайна можна аглядаць яе толькі праз шкло.

Выйшаўшы з гэтае капліцы і прайходзячы каля аўтара сьв. Марыі Магдалены, ідучы наваю далей улева, дойдзем да капліцы ўвязьненьня Ісуса Хрыста. Каля яе знайходзяцца дзьве іншыя капліцы: сьв. Лёнгіна і другая — Разьдзяленьня вопраткі. Адгэтуль ідуць каменныя сходы, якія вядуць да

## КАПЛІЦА СЬВ. АЛЕНЫ.

Яна належыць армянам. Паложана яна шмат ніжэй ад узроўня Базылікі, аднак унутры ў ёй даволі відна. —

Недалёка ад гэтае капліцы, ідучы ўніз па сходах абложаных жалезнымі кратамі, даходзіцца да капліцы

## АДНОЙДЗЕНЬНЯ СЬВ. КРЫЖА.

Капліца мае форму пячоры з азначаным мейсцам дзе знайшлі Сьвяты Крыж і крыжы разбойнікаў расьпятых з Хрыстом. Над аўтаром у капліцы знайходзіцца фігура сьв. Алены.

Вяртаючыся назад, прайшоўшы адны й другія сходы і выйшаўшы на карыдор — зараз з левага боку будзе капліца для ўшанаваньня тых зьнявагаў і цярпеньняў, якія Хрыстос мусіў перанесьці на пляцу Пілата падчас каранаваньня Яго цярновым вянком. Ідучы далей наваю, выходзім да Каменя Намашчэньня.

Тут пад капліцаю Кальварыі знаходзіцца яшчэ капліца Адама,дзе за Аўтаром і пазлачанымі дзьвярыма можна бачыць частку тае скальнае шчыліны, каторае пачатак бачылі на Кальварыі. Пры ўвайходзе, да капліцы з абодвых бакоў бачым каменныя ўзьнясеньні — гэта магілы. Як падае традыцыя, адна з іх мае быць Готфрыда Булёнскага, начальніка крыжакоў, які здабыў Ерузалім, а другая Бальдвіна І, каторы быў першым ерузалімскім каралём за часоў крыжакоў.

Агулам Базыліка Гробу выглядае за скромна, нават за бедна ў параўнаньні да свайго вялікага значэньня. Трэба такога Канстанціна Вялікага, такое сьв. Алены, такіх крыжакоў, каб прыдаць гэтай сьвятыні больш урачысты выгляд, гэтаму мейсцу сьмерці і трыумфу Богачалавека.

Ёсьць чуткі быццам пароблены ўжо стараньні, каб гэтую сьвятыню аднавіць.

## ВЯЧЭРНІК,

гэта тое мейсца, дзе Ісус Хрыстос спажываў з вучнямі Апошнюю Вячэру і дзе ўстанавіў Найсьвяцейшую Тайну Эўхарыстыі.

Для нас хрысьціян гэтае мейсца ёсьць вялікаю памяткаю, бо тут ёсьць першая сьвятыня Новага Запавету.

Гэты Вячэрнік хоць ня раз быў аднаўляны, але агулам ён менш пацярпеў ад войнаў, як другія гістарычныя будынкі, каторыя тут былі зраўнаныя з зямлёю. На жаль гэты Вячэрнік, падобна як і некаторыя другія дарагія для нас памяткі, знайходзіцца ў руках магамэтан, якія аднак пушчаюць туды кожнага наведвальніка.

Да Вячэрніка са старога Места йдзецца праз Сыёнскую браму, або як яе інакш называюць браму Давіда. Гэтая брама знайходзіцца з паўночнага боку мураў, якія акружаюць Старое Места. Знайходзіцца Вячэрнік недалёка ад Сыёнскае

брамы і нямецкага касьцёлу Усьпеньня Маці Божае.

У Вячэрніку Хрыстос некалькі разоў паказваўся сваім вучням пасьля ўваскрасеньня, тутжа на вучняў зышоў Дух Сьвяты, абдзяляючы іх усімі сваімі дарамі і даючы ім здольнасьць гаварыць усімі мовамі, якія ім былі патрэбныя для прапаведваньня сьв. Евангельля.

Каля Вячэрніка Францішкане пабудавалі капліцу, дзе каталікі могуць адпраўляць набажэнствы і маліцца, чаго нельга рабіць у Вячэрніку.

Што да ўспомненага вышэй касьцёла Усьпеньня Маці Божае, ці інакш

### DORMITORIO.

дык трэба ведаць, што ён стаіць на мейсцы, дзе Маці Божая жыла апошнія дні свайго туземнага жыцьця і дзе заснула ў Богу. Яе прачыстае цела было перанесена да гробу каля Гэтсэманскага саду, дзе цяпер знаходзіцца касьцёл Унебаўзяцьця, адкуль яна была ўзятая ў неба.

У касьцёле Dormitorio знайходзіцца прыгожая фігура памёршае Маці Божае. Знайходзіцца яна ў ніжняй капліцы ў тым мейсцы, дзе ўмірала Прачыстая Богамаці.

Касьцёл знайходзіцца пад апекаю айцоў Бэнэдыктынаў.

Блізка ад Dormitorio быў

### ДОМ КАЙАФЫ,

дзе жыды асудзілі Ісуса на сьмерць.

Каб дайсьці да муроў дому Кайафы, трэба ад Сыёнскае брамы падыйсьці паміж мурамі дарогаю крыху на захад аж да жалезнае брамы на могілкі армянскіх патрыярхаў. Там праходзячы між гробніцаў з левага боку пабачым армянскі касьцёлік. Гэтыя муры і асабліва касьцёлік лічаць за калішні дом Кайафы.

Так дом Кайафы, як касьцёл Усьпеньня, Вячэрнік і дом Анны, Давідава вежа, касьцёл сьв. Пятра з Гальліканту знайходзіцца на Сыёнскай гары, так услаўленай Давідам у яго псальмах.

### КАСЬЦЁЛ СЬВ. ПЯТРА IN GALLICANTU.

заслугоўвае так-жа, каб яго наведаць. Знайходзіцца ён недалёка ад Вячэрніка на ўсходнім стромым схіне гары. У ім ёсьць быццам два павярховыя касьцёлы адзін над другім.

За часоў Хрыста сюды даходзілі разьлеглыя забудаваньні паляцу Кайафы і на гэтым мейсцы знаходзілася вязьніца ў якую быў зачынены Хрыстос. Цяпер тут пад касьцёлам можна аглядаць невялікі чатыракутнік выкуты ў скале, які паводля традыцыі, мае быць тою вязьніцаю.

На ўсход ад касьцёлу сьв. Пятра ў даліне знайходзіцца

### САЖАУКА СІЛЁЭ,

ведамая з Евангельля, бо тут Хрыстос аздаравіў сьляпога. Сёньня на мейсцы сажаўкі стаіць мінарэт.

На паўдня ад Сыёнскае гары знайходзіцца вузкая даліна Гіннон із стромымі скалістымі берагамі. За гэтымі берагамі, насупраць касьцёлу сьв. Пятра знаходзіцца Гакэльдама.

(Працяг будзе)

**Д. Анісько.**

# СА СЬВЕТУ

### РЭФОРМА КАЛЕНДАРА.

Міжнароднае Таварыства Рэформы Календара, якое знайходзіцца ў З.Ш.А. прапануе наступную рэформу сучаснага Грэгарыянскага календара: Год мае дзяліцца на 12 месяцаў, як і дагэтуль, але кожны квартал мае мець па 91 дзень; першы месяц кварталу 31 дзень, другія два па 30 дзён. 31-е сьнежня быў-бы днём надзвычайным. 31-е чэрвеня было-б толькі раз на чатыры гады ў часе пераступнага году. 1-га студзеня, 1-га красавіка, 1-га ліпеня, 1-га кастрычніка выпадалі-б заўсёды ў нядзелю, а 1-га лютага, 1-га травеня, 1-га жніўня, 1-га лістапада — у сераду; 1-га сакавіка, 1-га чэрвеня, 1-га верасьня, 1-га сьнежня ў пятніцу. Значыць Новы Год заўсёды выпадаўбы ў нядзелю, а таму што паводля сучаснага календара найбліжэйшы новы год, які выпадае ў нядзелю, будзе ў 1950 г., дык у гэтым годзе хочуць увесьці новы календарь.

Гэтую справу перадалі ў А.А.Н. (Арганізацыю Аб'еднаных Народаў). Шматякія дзяржавы згаджаюцца ўвесьці гэты календар, Сьвяцейшы Айцец так-жа ня супраць.

Вялікдзень паводля гэтага календара заўсёды быў-бы 8-га красавіка, гэтым самым усе дагэтуляшнія рухомыя сьвяты ўсталіліся-б. Найхарактэрнейшаю азнакаю новага календара ёсьць тое, што кожны дзень тыдня прыпадаў-бы на сталы дзень месяца.

Тымчасам аб гэтай рэформе пішуць і гавораць толькі для паінфармаваньня грамадзтва.

### ПЛЯГА РАЗВОДАЎ.

Апошнімі гадамі штораз часьцей трапляюць у прэсу алярмуючыя весткі аб узросьце разво-

даў, як аб яўным знаку маральнага ўпадку. Напрыклад у З.Ш.А. у 1937 г. было 249.000 разводаў, а ў 1946 г. аж 613.000 — абыймаючы 21% усіх сужэнстваў. А ў 1947 г. гэты лік сягнуў аж 31%. Падобнае зьявішча назіраецца і ў Англіі, дзе ў 1905 г. было ўсяго 670 разводаў, у 1925 г. — іх было 3.000, у 1935 г. — 5.000, у 1945 г. — 25.000, а ў 1946 — 38.000. У іншых краінах гэтая справа маецца яшчэ горш, але там нават і ліку разводаў ня ведаюць і аб супроцьдзеяньні ня думаюць.

Карэспандэнт ватыканскае газэты «Оссэрваторэ Романо» паведамляючы аб ангельскіх разводах, кажа, што яны сталі застрашаючым жаралом граху й распусты. У самым Лёндане пачынае шырыцца «чорны гандаль». Брытыйскія грамадзяне жэняцца з чужынцамі, надаючы ім праз гэта ангельскае грамадзянства, а потым разводзяцца.

### ЖЫВЫ СЬВЕДАК НАПАЛЕОНАЎСКІХ ВОЙНАЎ.

Бадай што адзіным жывым сьведкам, які яшчэ памятае Напалеонаўскія войны ёсьць беларус Базыль Цішкін з Стаўрапальшчыны. Падчас адыходу Напалеонаўскіх войскаў Базыль меў 7 гадоў. Школьная дзетвара часта зьвятаецца да дзеда Базыля з просьбаю расказаць ім аб старым мінулым. Дзед пачувае сябе яшчэ зусім бадзёра і ахвотна здавальняе іх просьбы.

### МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ У МАДРЫДЗЕ.

Адзін з нашых прыяцялёў паведамляе аб надзвычайных урачыстасьцях у чэсьць Фатімскае статуі Дзевы Марыі, якія адбываліся ў Мадрыдзе ў канцы травеня г.г.: «Ніколі яшчэ Мадрыд ня бачыў такога збору людзей; былі перапоўныны ўсе вуліцы і пляцы. Адушэўленьне і ўздым да неапісаньня!.. Асабліва шчыра гарнуліся да Найсьвяцейшае Дзевы работнікі — ранейшыя камуністы. Падчас абходу з Статуяю дзеяліся шматлікія цуды і аздараўленьні. Я сам абчыў некалькі цудоўна аздароўленых. Але бадай што найбольшым цудам гэта быў зварот раней скамунізаваных работнікаў з перадмесьця Мадрыду — гэтых было найбольш каля Найсьвяцейшае Дзевы; яны шчыра з сьлязамі ў вачах маліліся за наверненьне Расеі. Шматлікія з іх, што дзесяткамі год не заглядалі ў сьвятыню, цяпер шчыра спавядаліся. Калі была Статуя ў нашай Сэмінарыі, мы ўсе асабліва шчыра маліліся за Вашу Беларусь, якое доляю у нас вельмі цікавяцца».

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## АНГЛІЯ.

### Багаслужэньне для ангельскіх студэнтаў.

У Оксфордзе на запросіны ангельскіх каталіцкіх студэнтаў рэктар Беларускае Рэлігійнае Місіі ў Англіі а. др. Ч. Сіповіч дня 16-га чэрвеня г.г. адслужыў урачыстую Службу Божую для тамтэйшых студэнтаў. Падчас багаслужэньня пяяў студэнцкі хор і шматлікія прыступілі да сьв. Прычасьця.

## АРГЭНТЫНА.

### У справе арганізацыі.

Сёньня адзінаю нацыянальнаю беларускаю арганізацыю ў Аргэнтыне ёсьць Згуртаваньне Беларусаў у Аргэнтыне. Толькі ў гэтым годзе яна пачала сваё існаваньне ,таму яшчэ магчыма ня ўсім ведамая. Гэтым шляхам зьвяртаецца з просьбаю да ўсяе беларуская эміграцыі паведаміць сваіх сяброў ці знаёмых, пражываючых на абшары Аргэнтыны перадаючы ім адрыс Згуртаваньня дзеля навязаньня лучнасьці:

**Asociacion Bielorusa en la Argentina, Colle Maza 150. Buenos Aires.**

## АЎСТРАЛІЯ.

Ад травеня г.г. першы транспарт беларусаў з Нямеччыны знайходзіцца ў пераходным лягэры ў Аўстраліі. Увесь час прабываньня ў лягэры прызначаны для практычнае падрыхтоўкі для будучае працы. Інтэнзыўна вывучаюць ангельскую мову. Але побач гэтага — невялікая група беларусаў не забываецца аб культурнай працы. Зарганізаваны тымчасовы камітэт і хор, але вельмі балюча адчуваецца нястача нотаў. Адносіны мяйсцовае ўлады добрыя. Клімат гарачы і вільготны. Рыхтуюцца хутка ехаць на працу ў цукровыя плянтацыі. Праца цяжкая, але заработак добры.

## АФРЫКА.

### У чужым лягэры.

Нямала беларусаў знайходзіцца на абшары Афрыкі, але вельмі расьцярушаны. Толькі ў некаторых лягэрах сустракаюцца больш значныя гурткі. У адным з лягэраў у Танганайцы знайшлося толькі беларусаў, што парабілі стараньні, каб наладзіць сваё культурна-нацыянальнае жыцьцё. Знайшоўся чалавек, які залажыў беларускую

школу і беларускія дзеці ўзяліся за працу. Але гэта шмат каму было недаспадобы. Пасыпаліся даносы. А калі гэтага было замала, дык паразьбівалі школьныя дошкі і разгарадзілі сьцяну школьнае залі да суседняга пакою гульняў. Не-падабаецца цёмным сілам асьветная праца, «мілей ім цемра з беднатой».

## БЭЛЬГІЯ.

### Легалізацыя С. Б. Б.

Бэльгійскае Міністэрства Юстыцыі дня 29-5-48 залегалізавала беларускую арганізацыю Саюз Беларусаў у Бэльгіі. Аседак арганізацыі знайходзіцца:

Union Biélorussienne en Belgique. 19, rue du Sammuel Donnay, Flamalle - Grande. (Liège).

### Візытацыя.

Я. Э. біск. Слоскан у таварыстве а. Баніфатыя і прадстаўніка ад Сындыкату Беларускіх Работнікаў у Бэльгіі візытаваў у канцы травеня і на пачатку чэрвеня г.г. большыя згуртаваньні Беларусаў у Бэльгіі. Усюды Я. Э. Слоскана сустракалі ўсе беларусы бяз розьніцы веравызнаваньня з вялікай радасьцю.

### Надзвычайны Зьезд.

Дня 21-га ліпеня г.г. мае адбыцца ў Флямаль надзвычайны Зьезд Беларусаў у Бэльгіі, які мае прыняць цэлы сьцяг важных пастановаў.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Ажыўленьне Аўтакеафліі.

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, пасьля адыходу сваіх ерархаў некаторы час была ў неазначаным стане. Цяпер паводля газэты «Бацькаўшчыны» Нр. 23 ад 5-га чэрвеня еп. Сергій абняў кіраўніцтва гэтаю Царквою.

### Зьезд беларускіх лекараў.

Дня 5-га чэрвеня г.г. у Марбургу адбыўся другі зьезд сяброў Аб'еднаньня Беларускіх Лекараў на Чужыне. Выслухаўшы справаздачу ўступаючага ўраду, Зьезд прызнаў яму абсалюторыю і выбраў новы ўрад, у склад якога ўвайшоў дасюлешні старшыня др. В. Тумаш і сакратар др. Мілянцэвіч. Наступна былі прачытаны тры даклады з галіны мэдыцыны і гісторыі і намечаны плян далейшае працы.

Вечарам з нагоды Зьезду марбургскія беларускія студэнты наладзілі вечарынку.

## ШВЭЦЫЯ.

### Беларуская дэлегацыя на Каталіцкім Зьездзе Моладзі.

У часе лацінскае Сёмухі 15-17 травеня г.г. у Штокгольме адбыўся агульны зьезд каталіцкае моладзі Швэцыі, на якім было больш 300 дэлегатаў маладых дзеячоў розных нацыянальнасьцяў. Ад беларусаў у Швэцыі была выслана такжа дэлегацыя на чале з інж. А. Ассоўскім. Зьезд прыняў беларускую дэлегацыю вельмі прыхільна, а яе старшыня быў адным з чатырох прыватных госьцяў рыма-кат. біскупа Швэцыі Я. Э. Ансгара Нэльсона.

## ФРАНЦЫЯ.

### Новы часапіс.

Сэкцыя беларускае моладзі пры «Хаўрусе». у Парыжы пачала выдаваць ад чэрвеня г.г. ратарным друкам свой часапіс пад назовам «Моладзь».

### Акадэмія ў чэсьць Я. Купалы.

У нядзелю дня 27-га чэрвеня г.г. з нагоды 6-ых угодкаў трагічнае сьмерці Я. Купалы у царкве Сан Сюльпіс пасьля Службы Божае была адслужана панахіда за душу паэты. Па палудні таго-ж дня ў залі Хрысьціянскага Сындыкату адбылася Акадэмія, на якую злажыліся: Даклады аб жыцьці і творчасьці Я. Купалы, дэклямацыя ягоных твораў і сьпеў.

## ПОШУКІ:

**Язэп Гаврош** з Наваградчыны, шукае сваіх сыноў **Антона** нар. у 1921 г. і **Яна**, нар. у 1922 г. Быццам былі ў Даніі, ці Галяндыі. Пісаць на радакцыю.

Хто ведае аб долі **Паула Рашатка**, які ў 1929 г. прыехаў у Францыю, просім прыслаць весткі ў радакцыю.

## ЗЬМЕСТ:




Gérant : D. Kucopej. Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.